ГРОДНА
№9 (561),
2 мая 2021

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Не адыходзіць, а застаецца




*Прыйшоўшы ў свет, Езус стаў чалавекам не на імгненне, а назаўсёды. А ўзышоўшы на Неба, увёў туды і нашу чалавечую натуру.*

на староны 2

## Цярністы ці просты, або Пра доўгі шлях да святарства



*Раскрыццё паклікання да святарства кс. Андрэя Каўшука – сапраўдны доказ актыўнай Божай прысутнасці ў жыцці чалавека.*

на староны 4

## Кругаварот пажыўных рэчываў у быце




*Як наконт здаровага і менш затратнага харчавання?*

на староны 5

# ПРАЕКТ “RIGHT SONG”, АБО ПРА ПРАВІЛЬНЫ ПАДЫХОД ДА ШЛЮБНАЙ ЦЫРЫМОНІІ



*Падчас сакраманту шлюбу хлопец і дзяўчына становяцца адзіным цэлым з бласлаўлення Хрыста*



**Што можа аб’ядноўваць маркетолага-эканаміста, спецыяліста ў сферы энергетыкі, студэнтку факультэта журналістыкі і школьніцу, якая марыць аб IT-сферы? Зразумела: тое, што заўсёды наймацней аб’ядноўвала і збірала разам самых розных асоб – вера ў Хрыста. Толькі ў нашых сённяшніх герояў ёсць яшчэ адзін супольны падмурак – любоў да музыкі, якая перарасла ў праект “Right Song” па музычным суправаджэнні літургіі сакраманту шлюбу.**

на староны 3

# САКРАМАНТ КАНФІРМАЦЫІ:

## НАВОШТА ЁН ПАТРЭБНЫ СУЧАСНАЙ МОЛАДЗІ, ДЫ ЯШЧЭ І Ў ЧАС ЭПІДЭМІІ?




*Удзяленне сакраманту канфірмацыі вернікам парафіі св. Міхала Арханёла. Смаргонь, 2021 г.*

на староны 6

СЛОВА РЭДАКТАРА

# Дарагія Чытачы!



Май, здаецца, з'яўляецца самым любімым часам для многіх людзей. У касцёлах упрыгожваюцца алтары, аздабляюцца кветкамі прыдарожныя капліцкі і крыжы. У маі ўсё ажывае. Усё становіцца новым і прыгожым. У гэты час можна пачуць, як расце трава, і ўбачыць, як яна раніцай купаецца ў кроплях расы. Акрамя таго, усё гэта суправаджаецца разнастайнасцю птушыных спеваў.

Таму не дзіўна, што такі месяц чалавек у сваёй набожнасці даўно вырашыў ахвяраваць Маці Божай – Марыі. "І вось нарэшце вярнуўся месяц цудоўнай Матулі..." – напісаў аднойчы ў пачатку мая святы а. Піо з П'етрэльчыны.

Так яно і ёсць. Гэта месяц славы Марыі, таму што ў маі можна атрымаць шматлікія ласкі, праслаўляючы нашу Маці і Каралеву. Больш за тое, менавіта дзякуючы духоўнаму плёну, які прыносіць май аддае найвышэйшую пашану Найсвяцейшай Панне, Пасрэдніцы ўсіх ласкаў.

Дары, якія Яна ўдзяляе тым, хто святкуе гэты месяц, самыя разнастайныя: духоўны рост, аднаўленне жыцця, навяртанне, а таксама часовыя: што датычаць нашага здароўя, працы, вучобы, дома ці сям'і... Колькі ж ласкаў у гэтым бласлаўлёным месяцы! Тым больш, што ён заканчваецца салодкім святам Наведзінаў, у якім Беззаганная Пасрэдніца Ласкаў прыносіць іх мноства Альжбеце, Захарыі і Яну Хрысціцелю... Каму з нас не патрэбна падобная дапамога?

Давайце маліцца ў гэты час аб дапамозе і абароне Маці Божай і прасіць Усемагутнага праз Яе заступніцтва аб ласках, якія патрэбны нам і нашым блізкім!

ks. Jerzy Martinowicz

КАЛЯНДАР

**2 мая**

***Дыяцэзіяльны дзень маці.***

*У першую нядзелю мая ў Гродзенскай дыяцэзіі адзначаецца Дзень маці. У гэты дзень ва ўсіх мясцовых касцёлах і капліцах узносяцца малітвы за жывых і памерлых мам, з падзякай ім за неацэнны ўклад у грамадскае жыццё і выхаванне ў веры будучых пакаленняў.*

**3 мая**

***Успамін Найсвяцейшай Панны Марыі, Каралевы Польшчы.***

*Гэты ўспамін быў устаноўлены па просьбе польскіх біскупаў пасля І Сусветнай вайны. Ён адзначаецца ў памяць аб прыняцці першай польскай Канстытуцыі, якая рэалізавала частку львоўскіх абяцанняў Яна Казіміра. У 1656 годзе гэты кароль даверыў краіну Марыі і абвясціў Яе каралевай Польшчы.*

*У гэты дзень таксама прыпадаюць імяніны кс. біскупа Аляксандра Кашкевіча. Узгадаем у малітве шаноўнага Імянінніка.*

**6 мая**

***Свята свсв. апосталаў Філіпа і Якуба.***

*Св. Філіп, як і святыя Пётр і Андрэй, паходзіў з Віфсаіды і, як і яны, быў вучнем св. Яна Хрысціцеля, а потым стаў вучнем Хрыста. Гэта ён папрасіў Езуса: "Пане, пакажы нам Айца", – і пачуў адказ: "Хто бачыў Мяне, бачыў Айца" (параўн. Ян 14, 8–9).*

*Св. Якуб Малодшы, паводле традыцыі, быў сваяком Хрыста, кіраўніком іерусалімскага Касцёла і аўтарам паўсюднага ліста, які ўваходзіць у канон Святога Пісання. Ён адыграў важную ролю ў г. зв. Іерусалімскім Саборы (параўн. Дз 15, 13–29). Быў закатаваны ў 62 годзе.*

**8 мая**

***Успамін св. Станіслава, біскупа і мучаніка.***

*Св. Станіслаў нарадзіўся ў Шчэпанове (Польшча) каля 1030 года. Пасля вучобы ў Парыжы быў пасвечаны ў святары, а ў 1072 годзе стаў біскупам Кракаўскім. Як заўзяты пастыр, ён клапаціўся пра дабро вернікаў, дапамагаў бедным і штогод наведваў святароў сваёй дыяцэзіі. У 1079 годзе быў закатаваны па загадзе караля Баляслава Смелага, якога папракаў у злоўжываннях.*

**14 мая**

***Свята св. апостала Мацея.***

*Св. Мацей быў выбраны апосталам на месца Юды. Згодна з традыцыяй, ён павінен быў спачатку абвяшчаць Евангелле ў Юдэі, а потым у Эфіопіі, дзе загінуў мучаніцкай смерцю каля 50 года.*

# НЕ АДЫХОДЗІЦЬ, А ЗАСТАЕЦЦА

працяг са с. 1

**Праз 40 дзён пасля ўваскрасення Пана нашага Езуса Хрыста ўспамінаем вельмі важны момант. Момант, калі Езус у апошні раз убачыў сваіх вучняў, а яны ў апошні раз убачылі свайго Настаўніка.**

*Кс. Юрый Марціновіч*

Унебаўшэсце Пана – гэта не толькі гістарычны факт, але і падзея, якая мае каласальнае значэнне для ўсіх людзей. Прыйшоўшы ў свет, Езус стаў чалавекам не на імгненне, а назаўсёды. А ўзышоўшы на Неба, увёў туды і нашу чалавечую натуру. Упершыню на нябесны трон сеў не толькі Бог, але і чалавек. Спасылаючыся на вобраз Касцёла як Цела Хрыста, можам спадзявацца, што паколькі наша Галава ўжо на Небе, то застаецца толькі пытаннем часу, калі там акажацца астатняе Цела.

**Урачыстасць Унебаўшэсця Пана сёлета адзначаем у чацвер 13 мая.**

Брамы Неба былі сапраўды адчынены. Дык не будзем здзіўляцца, што св. Павел у Пасланні да Эфесцаў моліцца, каб мы зразумелі, у чым заключаецца надзея нашага паклікання і якое багацце слаўнай спадчыны Езуса для святых (параўн. Эф 1, 18).

Годнасць чалавечай натуры настолькі вялікая, што яе немагчыма зразумець без асаблівай Божай дапамогі. Таму ўрачыстасць Унебаўшэсця Пана павінна абудзіць у нас прагу да Неба, а таксама заахвоціць, каб дазволілі Езусу весці нас ужо цяпер, сёння. Ён моцай сваёй крыжовай ахвяры ачышчае людзей ад граху і робіць годнымі вечнага жыцця. Без Яго мы ніколі б не ўвайшлі туды. Аднак нават Хрыстос не можа ўвесці чалавека ў Неба сілай, без яго добрай волі і супрацоўніцтва.

Пражываючы гэтае свята кожны год, мы ні ў якім разе не адзначаем адыход Пана. Гэта святкаванне таго, што Езус застаецца з намі. Ён ідзе да Айца, але менавіта праз гэта можа быць з кожным з нас – заўсёды, усюды і да канца.

Хрыстос зусім побач: у Эўхарыстыі, у сакраментах, у сваім Слове і ў нас саміх. Калі паверым Яму, Ён дапаможа зрабіць з нашых сэрцаў Неба, адхіліць у бок усё, што яшчэ засланяе яго, адкрые сапраўднае шчасце. Гэта добра разумеў св. Аўгусцін, які ў пэўны момант свайго жыцця сказаў: "Хрыстос узыходзіць на Неба, няхай узыдзе разам з Ім і наша сэрца".


wikipedia.org

Перажываючы ў гэтым годзе ў чарговы раз радасную і поўную надзеі ўрачыстасць Унебаўшэсця Пана Езуса, пажадаем адзін аднаму калі-небудзь сустрэцца ў Небе. Няхай гэтая думка суправаджае нас у цяжкія часы, у якія зараз жывём. Заўсёды ўсведамляйма, што мы запрошаны асабліва інтэнсіўна маліцца да Святога Духа, які кіруе ўсім Касцёлам, а таксама дзейнічае ў сэрцы кожнага чалавека.

Ён – калі мы дазволім Яму – вылечвае тое, што ў нас хворае, умацоўвае слабое, згінае пыхлівае, дае святло ў цемры і разгубленасці. Заклікаючы Яго, давайце з даверам адкрыемся на Яго ўздзеянне, каб мы самі маглі ўвайсці ў Неба і дапамаглі іншым увайсці ў яго.

# ПРАЕКТ “RIGHT SONG”, АБО ПРА ПРАВІЛЬНЫ ПАДЫХОД ДА ШЛЮБНАЙ ЦЫРЫМОНІІ

працяг са с. 1

**Рэната, Юрый, Ангеліна і Анастасія даўно з’яўляюцца часткай моладзі і хору ў парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе. Як яны самі ўпэўнены, Бог даўно меў план на тое, каб іх жыццёвыя шляхі перапляліся яшчэ мацней. І цяпер маладзёны з’яўляюцца сведкамі таго, што на Божыя справы заўсёды можна знайсці час.**

Ангеліна Марцішэўская



Рэната скончыла Беларускі дзяржаўны універсітэт і цяпер з-за працы жыве на два гарады – будні ў Мінску, выхадныя ў Лідзе. Яна заўсёды знаходзіць час на рэпетыцыі. Юрый, энергетык, які не можа расстацца з музыкай, вельмі любіць граць на гітары ў гурце. Ангеліна навучаецца ў Польшчы, аднак цешыцца, што з-за дыстанцыйнай формы навучання можа быць часткай каманды “Right Song”. У сваю чаргу школьніца Анастасія моцна натхняецца выступленнямі ў межах пректа.

***– Як узнікла ідэя стварыць “Right Song”? Якая мэта праекта?***

– Узнікненне гурта можна назваць гісторыяй аднаго вечара. Ці мелі Вы калі-небудзь пачуццё, нібы павінны зрабіць штосьці менавіта цяпер? У нас так адбылося год таму. Мы сядзелі на тэрасе, пілі гарбату, размаўлялі пра ўсё на свеце, а пасля раптам прыйшлі да высновы, што трэба аб’яднаць нашы таленты – спеў і ігру на гітары – з верай у Бога. Госпад кожнага надзяляе здольнасцямі, і наша справа – выкарыстаць іх дзеля служэння бліжнім, рабіць іх жыццё больш прыгожым.

Разважаючы гэтую думку, зразумелі, што найлепшы спосаб для нас – гэта музыкальна спадарожнічаць сужэнцам падчас сакраманту шлюбу, упрыгожваць цырымонію. Мы хочам зрабіць акцэнт на тым, што падчас вяселля самае галоўнае – не выкуп нявесты, не картэж, не поўны ежы стол, але момант шлюбу. А што яшчэ можа расчуліць так, як набожныя спеў? Тады клятва, дадзеная ў святыні, насамрэч запомніцца назаўсёды.

Ідэю падтрымалі святары, падзяліліся парадамі, як гэта зрабіць больш правільна. Так і нарадзіўся “Right Song”.

Шлюб – гэта атрыманне Божага блаславення для кожнага з сужэнцаў паасобку і для саюза цалкам – на трыванне ў любові і на патомства. Цяпер мы гэта разумеем поўнасцю і хочам рабіць сакрамант сужэнства больш узнёслым.



Удзельнікі “Right Song” з маладым сужэнствам у касцёле ў Росі

***– Дзе і калі Вы ўпершыню суправаджалі шлюб? Падзяліцеся ўражаннямі.***

– Гэта было ў кастрычніку мінулага года ў вёсцы Данюшава недалёка ад Смаргоні, на вяселлі ў цудоўнай пары Веранікі і Леаніда. Не абышлося без прыгод: захварэў наш гітарыст, і за тыдзень да выступлення мы засталіся без інструмента і машыны. Аднак, дзякуй Богу, у парафіяльнай супольнасці, як у сям’і: адразу знайшоўся хлопец, які замяніў гітарыста, а адзін са святароў пагадзіўся даставіць нас на месца.

Зразумела, мы хваляваліся, але падчас шлюбу ўсё прайшло як па масле. Па дарозе дадому доўга не маглі супакоіцца ад бязлічы эмоцый.

***– Які шлюб запомніўся больш за іншыя? Чаму?***

– Кожная сустрэча з сужэнцамі асаблівая для нас. Аднак пакуль найбольш яскравым у памяці застаецца шлюб Яна і Гражыны ў Росі. Прыгожы, утульны касцёл, вельмі адкрытыя, добрыя людзі. Іх любоў можна было адчуць. Гэта стала сапраўдным сведчаннем стварэння сям’і і Божага блаславення.

***– Вы дорыце людзям свой час, свае таленты і малітвы спевам. Што маеце з праекта ўзамен?***

– Самае каштоўнае – эмоцыі, якія нельга апісаць. Магчымасць развівацца прафесійна і духоўна. Знаёмства з новымі людзьмі і новымі месцамі, бо кожнай цырымоніі папярэднічае маленькае падарожжа. Мы не маем ніякай устаноўленай платы за прыезд. Аднак маладажоны з уласнага жадання складваюць ахвяраванні, і, канешне, гэта вельмі прыемна.

***– Што ўваходзіць у г. зв. “пакет паслуг”, і як можна запрасіць Вас на шлюб?***

– Мы цалкам музычна аздабляем цырымонію шлюбу, бярэм на сябе чытанні. Да кожнай пары маем індывідуальны падыход, улічваем усе пажаданні. Дапамагаем больш насычана адчуць важнасць гэтай падзеі.

**Каб запрасіць на шлюб, трэба напісаць да нас у Інстаграм (@right.song), пазначыць дату, час і месца праведзення сакраманту, бо ездзім па ўсёй Гродзенскай дыяцэзіі. Адразу агаворым усе пытанні, якія цікавяць.**





*А. Аркадзь Куляха OCD*

***Вясеннае надвор’е адкрывае шлюбны сезон. Аднак часта сярод маладых людзей можна заўважыць, што яны прытрымліваюцца народнага павер’я “ў маі маяцца” і адкладваюць вяселле. Чаму хрысціяне не могуць арыентавацца на падобны забабон і ў чым важнасць сакраманту шлюбу?***

*Май – цудоўны месяц, прысвечаны Панне Марыі – Каралеве і Апякунцы сем’яў. Я перакананы, што заключэнне сакраментальнага шлюбу ў маі, месяцы надзеі, прыгажосці і экспансіі жыцця, нягледзячы на забабоны і наперакор ім, з’яўляецца добрым выбарам. Паколькі сужэнская любоў – гэта задача на ўсё жыццё, якая патрабуе клопату, намаганняў і пастаяннага росту, то, незалежна ад месяца, маладым варта цалкам даверыць сябе Богу, папрасіць Яго благаслаўлення і ласкі ды даручыць сумеснае жыццё заступніцтву Маці Божай, св. Юзафа і ўласных апекуноў. Варта памятаць, што сужэнская любоў – гэта асаблівы ўдзел у творчай любові Бога, а прыняцце сакраманту шлюбу – своеасаблівае вызнанне веры і наступства прынятых раней сакрамантаў.*

*Папа Францішак вучыць, што “вера патрабуе двух пастаў: вызнаваць яе і давяраць”. Чалавек, якога Творца надзяліў розумам, павінен разважаць, аналізаваць свае думкі, жаданні і ўчынкі, дзякуючы якім удзельнічае ў жыцці Бога. Калі хтосьці верыць і давярае Усемагутнаму, а таксама любіць Яго, то не паддасца ніякім прымхам і забабонам, але праз малітву і сакраментальнае жыццё прысвеціць сябе Божаму Провіду.*

*Варта памятаць, што вера ў забабоны нясе ў сабе маральную адказнасць і з’яўляецца грахом. Вернікі, якія жадаюць заключыць сакраментальны сужэнскі саюз, не могуць кіравацца прымхамі і забабонамі, бо сапраўдная вера ў Бога іх выключае. Дарэчы, варта адзначыць, што калі чалавек пачынае верыць у забабоны, ён часта засяроджваецца на іх, што, у сваю чаргу, прыводзіць да страху і паралізуе яго свабоду. У маральным аспекце пошук своеасаблівай “бяспекі” па-за Богам прыводзіць да недаверу да Яго і паказвае недасканаласць веры ў Божую любоў, дабрыню, міласэрнасць, ласкавасць і, наогул, у Провід.*

*Я жадаю ўсім чытачам “Слова Жыцця” і, найперш, маладым людзям, якія рыхтуюцца да прыгожага і адказнага рашэння ўступіць у шлюб, з верай давяраць Богу і фарміраваць уласнае жыццё ў адпаведнасці з Яго воляй. Бясспрэчна, Бог блаславіць! Заклікаю Вас таксама рашуча адмаўляцца ад усялякіх прымхаў і забабонаў.*

## АКТУАЛЬНА

Ватыканскае радыё

### Папскі дыпламат прыняў удзел у малітве за прынца Філіпа

Арцыбіскуп Пол Рычард Галахер прамовіў казанне падчас набажэнства ў інтэнцыі памерлага прынца Філіпа, мужа каралевы Вялікабрытаніі Елізаветы II, у англіканскім храме Усіх Святых у Рыме.

Ватыканскі дыпламат заўважыў, што з пачатку праўлення Елізаветы і да самай сваёй смерці Філіп заўсёды быў побач. Ён дапамагаў весці манархію і каралеўскую сям’ю праз дзесяцігоддзі змен і праблем. Арцыбіскуп Галахер падкрэсліў, што Віндзары – гэта ўнікальная сям’я, але на самой справе яна падобна на любую іншую сям’ю са сваімі радасцямі і няшчасцямі, поспехамі і няўдачамі.

Прапаведнік звярнуў асаблівую ўвагу на два іншыя вымярэнні жыцця прынца Філіпа. Адзначыў выдатную кар’еру нябожчыка на флоце, а таксама тое, што ён быў папячыцелем больш за 800 дабрачынных арганізацый.

### Папа сустрэўся з Вярхоўным камісарам ААН па справах бежанцаў

Міграцыя, войны, голад, беднасць, пандэмія сталі тэмамі сустрэчы папы Францішка з Вярхоўным камісарам ААН па справах бежанцаў Філіпа Грандзі.

На аўдыенцыі ўзгадваўся неспрыяльны палітычны кантэкст. “Праблема прыняцця мігрантаў і бежанцаў стала моцна палітызаванай. Застаючыся гуманітарным выклікам, яна ператварылася ў тэму палітычных дэбатаў”, – патлумачыў прадстаўнік ААН.

Абмяркоўвалася і сітуацыя ў Цэнтральнай і Паўднёвай Амерыцы, з увагай да міграцыі з Венесуэлы, а таксама крызіс у Ліване. Гаворка ішла пра важнасць хуткага ўвядзення ў Еўропе агульнага інструмента для прыняцця, ідэнтыфікацыі і інтэграцыі мігрантаў.

### Аднавілася трансляцыя Ружанца з ватыканскай базілікі

Кардынал Анджэла Камастры працягне праводзіць штодзённую ружанцовую малітву ў базіліцы св. Пятра. Апоўдні з панядзелка па суботу можна далучыцца да малітвы на італьянскай версіі партала “Vatican News”.

Першае такое набажэнства прайшло 11 сакавіка 2020 года ў якасці прапановы ўсім, хто шукаў духоўнага суцяшэння падчас пандэміі. Эфір быў прыпынены ў канцы снежня мінулага года. Шматлікія просьбы вернікаў паспрыялі рашэнню аб вяртанні штодзённага Ружанца з Ватыкана.

### Малітоўныя інтэнцыі на май

**паўсюдная**

Молімся, каб адказныя за фінансы супрацоўнічалі з урадамі для рэгулявання фінансавай сферы і абароны грамадзян ад пагроз.

**дыяцэзіяльная**

Молімся, каб Бог блаславіў біскупаў, святароў, а таксама кансэкраваных асоб нашай дыяцэзіі.

# АДПУСТОВАЯ ЎРАЧЫСТАСЦЬ У ПЕРАЛОМЕ – "КАЛЫСЦЫ" КАПУЦЫНАЎ


grodnensis.by

**25 красавіка ў Пераломе каля Гожы (дэканат Гродна-Усход) адзначылі адпустовую ўрачыстасць у гонар св. Юрыя. У гэты дзень у невялікай драўлянай капліцы адбылася св. Імша, якую ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч.**

grodnensis.by

Святыня ажывае два разы на год: у адпустовыя ўрачыстасці св. Юрыя і Найсвяцейшага Імя Марыі. У гэты дзень на свята прыбылі вернікі, для якіх гэтае месца важнае. Як адзначаюць яны самі, там асаблівым чынам адчуваецца Божая прысутнасць, а мясціны, дзе знаходзіцца капліца, спрыяюць засяроджанню і малітве. На ўрачыстасці прысутнічалі таксама браты капуцыны з Докшыцаў, бо Пералом – знакавае для іх месца, іх "калыска". Менавіта тут на пачатку мінулага стагоддзя ўпершыню ў Беларусі з'явіліся прадстаўнікі Ордэна.

Гамілію падчас св. Імшы прамовіў пробашч парафіі ў Докшыцах а. Віталій Бандаронак OFMCap. Святар казаў пра тое, як важна адкрыцца на Бога, які заўсёды звяртаецца да чалавека, і заклікаў даручаць усе свае клопаты Пану, здольнаму нават самыя вялікія пакуты перамяніць у радасць.

Пастыр Касцёла на Гродзеншчыне падзякаваў мясцовым вернікам за іх прывязанасць да касцёла і вернасць Богу, а таксама за тое, што клапоцяцца пра святыню, прыгожую сваёй прастатой і сціпласцю. Біскуп прызнаўся, што часам прыязджае сюды "ціха", каб памаліцца ў прыватным парадку і на ўлонні прыроды адпачыць ад штодзённых спраў і абавязкаў.

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**БРАЗІЛІЯ.** У горадзе Энкантада на поўдні Бразіліі будуецца гігантская статуя Хрыста Заступніка, якая будзе вышэйшая за сусветна вядомую статую Хрыста Адкупіцеля ў Рыа-дэ-Жанейра. Хрыстос Заступнік у Энкантада будзе прадстаўлены з шырока раскрытымі рукамі і дасягне вышыні 43 метры (статуя Хрыста ў Рыа – мае ўсяго 38 метраў). У цэнтры фігуры размесціцца ліфт, якім можна будзе падняцца да назіральнай пляцоўкі на вышыні каля 40 метраў. Будаўніцтва статуі пачалося ў 2019 годзе.

**КОТ-Д'ІВУАР.** Кс. Пшэмыслаў Шэўчык выдзеліў уласныя грошы на выкуп з палону імігранта з Кот-д'Івуара. Хлопчык – сірата, які страціў бацькоў, калі меў усяго некалькі месяцаў. Сваякі пакінулі яго сабе, каб даглядаць, але былі вельмі беднымі і не змаглі дапамагчы яму. Хлопчык вельмі хутка стаў працаваць, але былі тыдні, калі ён еў толькі раз на сем дзён. Вырашыў паехаць у Еўропу, але, на жаль, трапіў у рукі баевікоў на лівійска-туніскай мяжы. Па словах святара, хлопчыка збівалі і падвяргалі гвалту.

**ФРАНЦЫЯ.** Помнік св. Яна Паўла II перад касцёлам Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Парыжы быў абліты фарбай невядомымі злачынцамі. Помнік Папы-паляка знаходзіцца ля ўваходу ў касцёл, які з'яўляецца месцам сустрэч польскай супольнасці з 1844 года, калі ацыбіскуп Парыжа Дэніс Огюст Афрэ перадаў святыню Польскай каталіцкай місіі. Пробашч парафіі кс. Павел Вітковскі падкрэсліў, што і ён, і супольнасць гэтай найбуйнейшай польскай парафіі ў Парыжы адчуваюць глыбокае засмучэнне з-за таго, што адбылося. Справай займаецца французская паліцыя.

**ЧЭХІЯ.** У катэдры свсв. Пятра і Паўла ў Брне пачаліся доўгачаканыя рамонтныя работы, у рамках якіх прэзбітэрый атрымае новае ўбранне. Рабочыя выдалілі мармуровы алтар, пабудаваны ў 1980-ых гадах. Ён будзе перавезены ў Рым і размешчаны ў касцёле папскага Kolegium Nepomucenum. Да сярэдзіны мая катэдра ў Брне атрымае новы алтар, распрацаваны групай архітэктараў: Міхалам Рыкам, Пятром Тодаравым і Магдаленай Рыкнай. Адаптацыйныя працы ў Рыме правядзе чэшскі скульптар Петр Ван.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

# ЦЯРНІСТЫ ЦІ ПРОСТЫ, АБО ПРА ДОЎГІ ШЛЯХ ДА СВЯТАРСТВА

*працяг са с. 1*

***Працяг цыкла сведчанняў ксяндзоў, якія адкрылі сваё пакліканне пасля разнастайнага жыццёвага досведу.***

*Ангеліна Марцішэўская*

## *Кс. Андрэй Каўшук: "Пакліканне не распазнаецца ў момант, але з перспектывы паспрабаваць сябе ў пэўнай ролі"*

Калі слухаеш кс. Андрэя падчас св. Імшы, адчуваецца, нібы падрыхтоўка і прамаўленне казанняў не даецца яму з лёгкасцю. Магчыма, як прызнаецца сам святар, таму што навука ніколі не была яго моцным бокам. Аднак Бог заўсёды ведае, чым запоўніць там, дзе не стае. І калі даводзіцца размаўляць з кс. Андрэем, адразу бачыш: гэты чалавек зведаў жыццё, ён эможа табе дапамагчы. І парады ад святара атрымліваюцца адпаведныя – не абстрактныя, але практычныя.

*"Я нарадзіўся ў шматдзетнай сям'і. Нас усіх разам дзевяць чалавек – сямёра родных братоў ды сясцёр і двое прыёмных. Зразумела, у такой сітуацыі вучышся клапаціцца не толькі пра сябе. Рана выхоўваюцца самастойнасць і адказнасць. Таму ў 16 гадоў я перавёўся ў вячэрнюю школу, каб пайсці працаваць у будаўнічую арганізацыю"*, – распавядае кс. Андрэй.

На школе гісторыя з навучаннем і скончылася, а хлопец на працягу наступных 9-ці гадоў працаваў у будаўнічай сферы, заслужыўшы 5-ты кваліфікацыйны разрад з 6-ці магчымых. У дасемінарыйны перыяд хлопец паспеў атрымаць вайсковы досвед: у арміі трапіў у другую спецыяльную брыгаду аховы прэзідэнта – як лічылася, у элітнае войска. Узгадвае гэты час нешматслоўна: *"Засвоіў субардынацыю, што прыдалося ў семінарыі, і атрымаў круты досвед кіроўцы"*. Апошняе, дарэчы, адыграла сваю ролю ў пераломны момант навяртання.

*"Я рос у набожнай сям'і і памятаю, што ў дзяцінстве рэлігійнасць мяне захапляла. Любіў удзельнічаць у маёвых набажэнствах: збірацца разам з бабулямі пад крыжам, слухаць прыгожыя песнапенні і нароўні з дарослымі ўдзельнічаць у малітве. На нядзельную св. Імшу мог з задавальненнем прайсці некалькі кіламетраў да бліжэйшага касцёла. Аднак з цягам часу гэта адышло ў нябыт. Будучы юнаком, ды пры гэтым зарабляючы немалыя грошы, амаль кожную нядзелю я адпраўляўся з сябрамі ў «турнэ» па дыскатэках усёй краіны. Зразумела, гэтаму спадарожнічалі і алкаголь, і гулянні*, – прызнаецца кс. Андрэй. – *Аднойчы перад чарговымі выхаднымі патэлефанавала мама і папрасіла адвезці яе з сяброўкамі ў Рось на рэкалекцыі. Я адмовіўся. Хто захоча прыпыняць чараду вечарын? Аднак матуля пазванiла ізноў: у таго, хто паабяцаў іх завезці, паламалася машына. Ну я і пагадзіўся"*.

Падчас паездкі хлопец разбіў свой аўтамабіль. *"Машыну пачало круціць на амаль пустой дарозе, на абсалютна роўным месцы, я тройчы стукнуўся аб металічныя бар'еры, а ў салоне толькі і было чуваць: «Маці Божая, ратуй!». Улічваючы, што я сапраўды вадзіў вельмі добра, дагэтуль не разумею прычыны здарэння. Калі ўсё сціхла і я выйшаў з машыны, у галаве раптоўна ўзнікла думка: хтосьці або штосьці не хоча, каб я трапіў у Рось"*, – узгадвае святар.

Да санктуарыя ўсё-такі дабраліся, і хлопец вырашыў зазірнуць у касцёл на некалькі хвілін, памаліцца: як-ніяк пераж

Прэзбітэрскія пасвячэнні кс. Андрэй прыняў у чэрвені 2018 г.



Кс. Андрэй, будучы клерыкам, паспеў пабываць на місіі ў Казахстане, дзе запазычыў шмат навыкаў евангелізацыі

ыў стрэс. Аднак са святыні ён выйшаў толькі праз тры дні, пасля заканчэння рэкалекцый, абсалютна другім чалавекам.

**"Там я ўпершыню за два гады натхніўся, каб прыступіць да споведзі. Пасля пакаяння нарэшце зніклі думкі, што Бог не прабачыць мне таго, што я чыніў. Маю ўвагу таксама прыцягнулі казанні і сведчанні. Немалаважна і тое, што пасля рэкалекцый кінуў паліць, хоць дагэтуль ішло дзве пачкі цыгарэт штодня. Ды і кінуць спрабаваў неаднойчы – марна!**

**Падчас заступніцкай малітвы мама паказала мне на чаргу, маўляў, стань і ты, няхай памоляцца над табой. Я паслухаўся. Стаю, а побач – адзін кульгае, іншы міргае. А я здаровы 22-гадовы хлопец! Аб чым прасіць? І раптам інтэнцыя – каб кінуць паліць. Чалавек, які маліўся нада мной, сказаў: калі наступным разам захочаш узяць цыгарэту, узгадай пра Хрыста. Я толькі ўсміхнуўся сам сабе ды пайшоў"**, – адзначае кс. Андрэй.

Дзіва, але з таго моманту хлопец не зрабіў ніводнай зацяжкі. На працягу паўгода ўвогуле не хацелася. Пасля жаданне вярнулася, аднак за гэты перыяд ён здолеў пабудаваць такія адносіны з Хрыстом, якія дазволілі яму перамагаць усякія слабасці. Перайначваўся і стасунак да акружэння: на змену кароткачасовым раманам – трывалыя адносіны, а для сяброў – добры прыклад мужнасці, які тыя імкнуліся пераймаць.

Змянілася і малітва хлопца. Калі ў даўнія часы гэта былі толькі ўсім вядомыя формулы, то цяпер ён не ляніўся ўстаць раней, каб адкрыць Біблію і памаліцца Божым словам. Такім чынам пазнаваў, слухаў Нябеснага Айца, а пасля пачаў звяртацца да Яго сваімі словамі.

У гэтым сузіранні паступова нараджалася пакліканне да святарства. І сёння кс. Андрэй упэўнены, што "пачуць голас Бога" – гэта занадта эфемернае паняцце. Пакліканне распазнаецца толькі з перспектывы часу. *"Калі я ўжо на працягу некалькіх гадоў служу вікарыем і адчуваю сябе шчаслівым, магу сказаць, што знаходжуся на сваім месцы. І толькі цяпер разумею, што знакі сабраліся ў адзіную мазаіку. Напрыклад, калі быў яшчэ будаўніком, але ўжо практыкуючым вернікам, людзі часта казалі, што з мяне выйшаў бы добры ксёндз. Адна дзяўчына падчас чарговых рэкалекцый увогуле пераблытала мяне са святаром, а іншая папрасіла ўзначаліць малітву за памерлых"*.

Святар, разам з тым, упэўнены, што круты паварот лёсу – гэта частка заслугі яго матулі і бабулі, якія шмат маліліся, каб ён распазнаў пакліканне.

*"Галоўнае, калі вы знаходзіцеся ў пошуку паклікання – не за цягвайце роздумы і не задавайце сабе бясконцыя пытанні. Прымайце рашэнні, спрабуйце! І ўжо пасля таго, як зробіце крок, будзеце разбірацца з наступствамі і рабіць высновы. Памятайце, які б шлях вы не абралі, яго канчатковая мэта – ваша святасць і святасць тых, хто побач"*, – дадае на заканчэнне кс. Андрэй.

# МАРЫЙНЫ МАЙ




**Напэўна, у кожнага з нас месяц май атаясамліваецца з выключна прыгожым сонечным надвор'ем, квітнеючымі кветкамі і, усё часцей, з доўгімі майскімі выхаднымі. Але ёсць яшчэ адна характэрная рыса гэтага вясновага месяца – набажэнства да Маці Божай, цэнтральнай часткай якога з'яўляецца Ларэтанская літанія.**

**Адзін з самых прыгожых месяцаў года цалкам прысвечаны Марыі. Адраджэнне прыроды, прыгожая зеляніна, кветкі і цёплае сонца імкнуцца хоць крыху адлюстраваць прыгажосць Маці Касцёла, якая менавіта ў маі асаблівым чынам адорвае вернікаў неацэннымі ласкамі.**

*Апрацаваў кс. Юрый Марціновіч*

### ПАЧАТКІ НАБАЖЭНСТВА

Гісторыя набажэнства да Маці Божай пачынаецца ў V стагоддзі, калі ва Усходнім Касцёле вернікі збіраліся разам, каб пакланіцца Багародзіцы. У той час руплівым заступнікам і апосталам новага набажэнства быў св. Кірыл Александрыйскі, вялікі абаронца Боскага Мацярынства Марыі, які ўнёс свой уклад у абвяшчэнне дагмата аб тым, што Найсвяцейшая Панна Марыя з'яўляецца сапраўднай Божай Маці (Theotokos).

Першапачаткова май не быў адзіным і самым важным месяцам, прысвечаным Марыі. Усё змянілася на мяжы XIII–XIV стагоддзяў, калі іспанскі кароль Альфонс X прапанаваў асаблівым чынам прысвяціць май Багародзіцы. Кароль рэкамендаваў вечарамі збірацца і маліцца ля фігуры Марыі.

Іншым важным папулярызатарам маёвага набажэнства быў бл. Генрык Сузо, дамініканец і містык, які ўвесь час паўтараў, што "не трэба спыняцца ні перад чым, што не з'яўляецца Богам". Гісторыя распавядае, што гэты бласлаўлёны, які жыў у надзвычай суровай аскезе і фізічных утаймаваннях, сам збіраў кветкі і клаў іх на алтар, а на галаву Найсвяцейшай Панны ўскладваў вянок з руж. Усё на знак яго вялікай любові да Марыі.

Маёвае набажэнства хутка распаўсюдзілася. Настолькі, што ў XV стагоддзі яно ўжо практыкавалася ў Іспаніі, Партугаліі, Паўночным Рэйне, Цэнтральнай Амерыцы і Італіі. Важным момантам у гісторыі набажэнства з'яўляецца апублікаваная ў 1549 годзе Вольфгангам Зайдэлем праца пад назвай "Духоўны май". Менавіта там май упершыню быў афіцыйна названы "месяцам Марыі".

### РОСКВІТ НАБАЖЭНСТВА

Надзвычай важную ролю ў развіцці набажэнства адыгралі два езуіты: а. Ансолані і а. Ганібал Дыянісі. А. Ансолані лічыцца аўтарам сучаснай формы набажэнства. Ён першым пасля заканчэння малітвы блаславіў вернікаў Найсвяцейшым Сакрамантам. У сваю чаргу а. Ганібал Дыянісі, сабраў і сістэматызаваў усе праяўленні культу Найсвяцейшай Панны, а затым выдаў публікацыю пад назвай "Месяц Марыі", якая за першыя 70 гадоў перавыдавалася 18 разоў. А. Дыянісі ў сваёй працы раіў, каб у маі "ўпрыгожваць алтары Маці Божай кветкамі, штодзённа збірацца на малітву і прысвячаць Марыі нейкае духоўнае адрачэнне, а таксама чытаць і засяроджвацца над разважаннямі пра Яе жыццё".

У пачатку XVIII стагоддзя маёвае набажэнства паволі пачало праводзіцца публічна, бо да гэтага часу было прыватным элементам марыйнага культу. Усё змянілася дзякуючы а. Альфонсу Муцарэлі, які на працягу ўсяго жыцця нястомна папулярызаваў набажэнства да Маці Божай. Незвычайны росквіт марыйнай пашаны можна заўважыць з часу публікацыі папам Піем VII булы, у якой ён устанавіў поўны адпуст за такія рэлігійныя практыкі.

Галоўны пункт маёвага набажэнства – Ларэтаская літанія, якая ўзнікла ў XII стагоддзі ў Ларэта ў Італіі. Яна была зацверджана папам Сікстам V.

### ЗАПРАШЭННЕ МАРЫІ

Месяц май ужо пачаўся, таму давайце памятаць словы папы Паўла VI, змешчаныя ў энцыкліцы "Mense Maio": "Давайце ў месяцы Марыі, шануючыя Браты, з большай адданасцю і даверам узносіць малітвы да Багародзіцы, каб выпрасіць у Яе ласку і дары. [...] Бог устанавіў Найсвяцейшую Панну Марыю шчодрай распарадчыцай сваіх дароў. [...] Няхай Марыя ласкава выслухае набожныя галасы, якія ўзносяцца да Яе з зямлі".

Найсвяцейшая Панна Марыя дала і дае нам Езуса, Яна адчувальная да чалавечай бяды, умее ўбачыць дабро ў сваіх дзецях. Марыя запрашае нас на маёвыя набажэнствы, каб разам з Ёю адаравалі Езуса, запрашае аддаць Яму сваё жыццё, а Яна заўсёды разам з намі будзе малiцца і вучыць любіць.

Давайце прымем гэтае ўнікальнае запрашэнне! Станем сапраўднымі дзецьмі Марыі, і няхай Яна заўсёды вядзе нас да Хрыста!

ЭКАЛАГІЧНАЯ ЦНОТА

# КРУГАВАРОТ ПАЖЫЎНЫХ РЭЧЫВАЎ У БЫЦЕ



*Алена Майсюк*




працяг са с. 1

**Сёння прадуктовыя крамы размешчаны ў крокавай даступнасці, у кожным раёне ёсць міні-рынкі – гэта спрыяе мінімізацыі закупак "на запас". Гэта значыць, мы можам дазволіць сабе набываць простыя прадукты з кароткім тэрмінам захоўвання, каб меншыя закупкі ўплывалі на памяншэнне вытворчасці. Аднак разнастайнасць і крам, і прадуктаў спрацоўвае інакш.**

**Мы штодня прымаем ежу, і адначасова з гэтым ствараюцца харчовыя адходы: ачысткі, "недаедкі" або проста сапсаваныя прадукты. У выніку кожны дзень людзі выкідваюць у смеццевае вядро каштоўныя рэсурсы: час, здароўе, грошы. Як гэта змяніць?**

### ЗДАРОВАЯ ЕЖА – РАЗУМНЫ ПАДЫХОД ДА ЖЫЦЦЯ

Прадукты, поўныя жыццёвай энергіі – гэта жывая расліннасць: зеляніна, агародніна, садавіна. Або яны ж замарожаныя ці высушаныя. Прадукты, якія змяшчаюць велізарны пералік хімічных складнікаў, шкодзяць жывому арганізму, з'яўляюцца іншароднымі і не засвойваюцца.

Усё, што вырашчана ў кароткія тэрміны ці не ў сезон, не атрымлівае неабходных рэчываў, а значыць не прынясе іх тым, хто есць такія прадукты. Таму чалавек не можа насыціцца малой колькасцю ежы. Пераяданне абцяжарвае арганізм і прыводзіць да захворванняў.

Цікава, што бацвінне змяшчае больш карысці, чым карняплоды. Напрыклад, у маркоўным бацвінні ў 500 разоў больш вітаміну А, чым у яе карняплодзе. Усе каштоўныя вітаміны і мінералы часцей утрымліваюцца ў лупінах, якія счышчаюць або выкідваюць (напрыклад, яблык, банан, агурок). Мякаць без лупін не можа эфектыўна засвоіцца і бярэ рэсурсы ў арганізма.

Лепшы спосаб быць здаровым – прымаць у ежу суцэльны прадукт, без рафінавання (цукар, мука, алей), паДЗелу на складнікі (вотруб'е, пакетаваныя сокі). Праз некаторы час арганізм будзе складацца з таго, што было з'едзена і выпіта сёння.

### ХТО СТВАРАЕ ВІТАМІНЫ І МІКРАЭЛЕМЕНТЫ

Расліна бярэ ўсё неабходнае для сябе з зямлі і ў зямлю вяртае: апалае лісце, аджыўшыя карані, згнілыя плады. Усё гэта насякомыя, чарвякі і мікраарганізмы расшчапляюць на элементарныя рэчывы, якія зноў служаць для раслін харчаваннем. Калі ў іх забіраць усё і нічога не вяртаць ці замяняць на ўгнаенні хімічнай вытворчасці, расліны пачынаюць хварэць і – як вынік – не нясуць жыццёвай энергіі.

Сама расліна не здольна браць неарганічныя элементы з глебы і пераўтвараць іх у арганічныя. Для гэтага прырода прыдумала памочнікаў – глебавыя мікраарганізмы. Яны жывуць у сяброўскім сімбіёзе, даючы адзін аднаму неабходныя элементы. Калі ўзворваннем, перекопкай парушыць гэтыя ўзаемавыгадныя адносіны, расліна не здольна будзе атрымліваць усё неабходнае для паўнацэннага развіцця. Сюды яшчэ дадаецца сталая ўборка апалага лісця або ачышчэнне градак. Усё гэта збядняе пажыўную каштоўнасць раслін для чалавека і жывёл.

### ЯК ВЫРАСЦІЦЬ КАРЫСНАЕ

Кампаставанне кухонных адходаў з'яўляецца спосабам паляпшэння прадуктаў харчавання. Кожны можа прызначыць ёмістасць для збору арганічных рэштκаў і выкарыстоўваць у сябе на градках, рабіць хатні кампост, аддаваць тым, хто займаецца арганічнай сельскай гаспадаркай.

У Беларусі ўжо ёсць устаноўкі, якія выпрацоўваюць біягаз з харчовых адходаў. Часцей яны сумешчаны з ачышчальнымі збудаваннямі. Але гэта не вяртае ўрадлівасць глебы. Пачніце збіраць арганічныя адходы асобна.

Існуе міф, што пры спальванні старой расліннасці павышаецца ўрадлівасць. Аднак пажар шкодзіць глебе: знішчаюцца мікраарганізмы, забіваюцца насякомыя, дробныя жывёлы, гнёзды птушак, на выгаралых месцах з лёгкасцю засяляюцца дзікія расліны. Зямля становіцца мёртвай і для аднаўлення прыродных сімбіятычных сувязей патрабуецца некалькі сезонаў.

Зразумець прынцыпы жыцця можна ў назіраннях за прыродай. У ёй няма лішніх элементаў.

**Хатняе кампаставанне.** На дно ёмістасці пакладзіце пару галінак. Накідайце свежыя харчовыя адходы, запусціце дзесятак чарвякоў, зверху прысыпце зямлёй. Кожны раз закідвайце свежыя ачысткі пад існуючы пласт зямлі (служыць крыніцай глебавых мікраарганізмаў). Раз на 2-3 месяцы забірайце частку ўрадлівай зямлі для агарода, пакаёвых раслін.

ДАПАМАГЧЫ ДОБРАЙ РАДАЙ

# ЯК ДАПАМАГЧЫ Ў РЭЛІГІЙНЫМ КРЫЗІСЕ?



*Кс. Павел Салабуда, псіхолаг*

Самыя важныя рэчы, на якія варта звярнуць увагу, дапамагаючы чалавеку, што перажывае рэлігійны крызіс – гэта малітва, рэлігійныя практыкі і кантакт з іншымі людзьмі. Складанасць заключаецца ў тым, што асоба, якая знаходзіцца ў крызісе, не заўсёды будзе адкрыта шукаць дапамогі. Тым не менш нельга быць абыякавым да яе. Часам можа спатрэбіцца спецыялізаванае ўмяшанне псіхолагаў ці псіхіятраў і нават фармакалагічная падтрымка.

**Каб дапамагчы чалавеку выйсці з крызісу, трэба:**

• *прысутнічаць;*
• *уважліва слухаць;*
• *разумець і растлумачваць пачуцці;*
• *дапамагаць у прыняцці мер;*
• *назіраць і карэкціраваць паводзіны.*

Зычлівы і блізкі чалавек можа вельмі дапамагчы, бо ў асобы ў крызісным стане часцей за ўсё ўзмацняецца пачуццё адзіноты. У такой сітуацыі павучанні становяцца неэфектыўнымі, але прысутнасць іншага чалавека – гэта нібы адчуванне пэўнай сілы таго, хто побач. Вельмі часта дэпрэсія прытупляе веру і засланяе яе значэнне як тэрапеўтычнага сродку. У сваю чаргу ўважлівае слуханне і ахвяраванне свайго часу іншай асобе – добры спосаб пачаць дапамагаць. Здольнасць памочніка спачуваць, дапамагае чалавеку, які апынуўся ў крызісе, ставіць складаныя і інтымныя пытанні. Сустраканне свету асобы мае вырашальнае значэнне для разумення прычын крызісу і яго дынамікі. А размова дазваляе называць тое, што адбываецца ўнутры чалавека. Было б добра, каб асоба, якая перажывае крызіс, дакладна вусна альбо пісьмова прадставіла, што адчувае і якія прычыны гэтага стану бачыць. Тады ўся інфармацыя можа быць аб'ектыўна прааналізавана і ацэнена. Часта бывае так, што добрая і зычлівая размова дапамагае настолькі, што асоба сама бярэцца за канкрэтныя дзеянні, якія дапамогуць пераадолець узніклы крызіс. Калі ж чалавек у крызісе нібы паралізаваны сваімі перажываннямі і не здольны прыняць рашэнне, то хтосьці іншы можа дапамагчы яму ў гэтым. Таксама важна назіраць, як асоба, якая знаходзіцца ў крызісе, рэалізуе планы па выхадзе з праблем.

Калі чалавек паспяхова пераадольвае рэлігійны – як і любы іншы – крызіс, гэта становіцца важным фактарам, падтрымліваючым працэс яго сталення. У рэлігійным жыцці такі чалавек перажывае г. зв. навяртанне, якое дапамагае яму па-іншаму паглядзець на сябе і свае адносіны да Бога і бліжніх. Чытаючы Біблію, мы можам сустрэць мноства прыкладаў крызісаў, якія мелі біблейскія героі (напр. Ёў, Ёна, Якуб, Пётр).

Крызіс можа суправаджаць асобу на розных этапах яе жыцця, напрыклад, у падлеткавым узросце, калі малады чалавек перажывае перыяд фарміравання рэлігійнай аўтаноміі. Моладзь, якая таксама дастаткова часта мае пэўныя свае маральныя канфлікты, негатыўна ставіцца да Касцёла і веры. Заўсёды важнае значэнне мае дапамога іншага чалавека: сябра, знаёмага, святара, псіхіятра ці іншага спецыяліста. Не варта адкладваць яе на пазнейшы час, трэба заўсёды быць даступным і прысвяціць столькі часу, колькі патрэбна асобе ў крызісным стане. Удзел у рэкалекцыях, час для роздуму, адпаведная літаратура, разнастайныя рэлігійныя сустрэчы, паломніцтва, катэхезы – усё гэта дапамагае пераадолець цяжкасці. Крызіс – гэта не катастрофа, і правільнае яго вырашэнне можа прывесці да сталай рэлігійнасці.

# САКРАМАНТ КАНФІРМАЦЫІ: НАВОШТА ЁН ПАТРЭБНЫ СУЧАСНАЙ МОЛАДЗІ, ДЫ ЯШЧЭ І Ў ЧАС ЭПІДЭМІІ?

*працяг са с. 1*

***Кс. Павел Раманоўскі***

***1. Своечасовасць.*** Святы Каталіцкі Касцёл на працягу сваёй гісторыі паступае згодна з Божай мудрасцю, што "на ўсё ёсць свой час" (параўн. Экл 3, 1).

Калі нараджаецца маленькае дзіцятка, Касцёл становіцца ля вытокаў яго духоўнага жыцця, удзяляючы сакрамант хросту. Калі дзіця падрастае і становіцца здольным адрозніваць дабро ад зла, Касцёл прыходзіць яму на дапамогу ў барацьбе са злом праз сакрамант пакаяння і пяднання, а праз сакрамант Эўхарыстыі дапамагае трываць у добрым і ўзрастаць у цнотах. Калі ж надыходзіць у жыцці юнака ці дзяўчыны час сталення, інтэнсіўнай працы над характарам, час будавання адносін з бліжнімі і пошуку месца ў свеце, Касцёл умацоўвае моладзь сямю дарамі Святога Духа праз сакрамант канфірмацыі.

***2. Неабходнасць веры.*** Падчас цэлебрацыі сакраманту хрысціянскай сталасці на пытанне біскупа, якіх ласкаў кандыдаты чакаюць ад Бога, яны адказваюць: "Прагнем, каб Святы Дух, якога мы атрымаем, умацаваў нас для мужнага вызнавання веры і для жыцця паводле яе праўд".

У жыцці хрысціяніна заўсёды стаіць пытанне аб веры: "А без веры немагчыма спадабацца, бо той, хто падыходзіць да Бога, павінен верыць, што Ён існуе і дае ўзнагароду тым, хто Яго шукае" (Гбр 11, 6). Вера як ядванне з жывым Богам з'яўляецца таксама фундаментальнай умовай удзялення канкрэтнаму чалавеку таго ці іншага сакраманту.

Каб дзіця было ахрышчана, неабходна вера яго бацькоў і хросных. Падчас цэлебрацыі хросту яны адказваюць на пытанні святара (дыякана): ці вераць у Бога Айца, ці вераць у Сына Божага, ці вераць у Святога Духа, ці вераць у Святы Каталіцкі Касцёл і праўды, якія ён атрымаў ад Бога і якім навучае? Таксама бацькі прымаюць на сябе абавязак выхоўваць сваё дзіця ў веры, а хросныя абавязваюцца дапамагаць бацькам у гэтым.

Падчас урачыстасці Першай св. Камуніі дзеці ўжо самі адказваюць на пытанні святара адносна сваёй веры – тыя самыя, на якія адказвалі іх бацькі і хросныя – і абяцаюць пры дапамозе Божай ласкі верна захоўваць Яго запаведзі і касцёльныя наказы.

Падчас канфірмацыі юнакі і дзяўчаты вызнаюць перад біскупам сваю веру, але адначасова просяць аб яе ўмацаванні, каб мець магчымасць дзяліцца ёю з бліжнімі і жыць паводле веры, даючы добры прыклад іншым.

***3. Праблема слабой веры.*** Пытанне адносна неабходнасці і патрэбы прыняцця сакраманту канфірмацыі ўзнікае заўсёды як вынік слабой веры – дарослых і іх дзяцей. У галовах бацькоў, якія не жывуць верай, рэгулярна не практыкуюць яе ці зводзяць толькі да выканання на святы рэлігійных традыцый і абрадаў, якія на працягу шматлікіх гадоў пасля хросту сваіх дзяцей не далі ім добрага прыкладу веры, не развівалі яе ў сваёй душы і не дапамагалі ў гэтым дзецям, пачынаюцца розныя падлікі: як змагываваць падлеткаў да гэтага сакраманту і як зрабіць, каб яны з найменшымі намаганнямі ўсё ж прынялі яго. Бо неканфірмаваным не ўдзеляць сакраманту шлюбу, яны не змогуць быць хростнымі бацькамі і г. д.

Як можна расказваць маладзёнам аб вызнаванні веры, аб патрэбе яе абароны, аб жыцці паводле яе ісцін, калі яны не пазналі жывога Бога, не моляцца, не прыступаюць рэгулярна да святых сакрамантаў? Можна, калі мы – катэхеты і святары – пачнём даваць ім і іх бацькам сведчанне нашай веры, дапаможам спачатку аднавіць жывую сувязь з Богам. Тады моладзь не будзе задаваць пытанне: "Ці абавязкова мне прымаць сакрамант канфірмацыі?", але спытаецца: "А якія ласкі я атрымаю ад Бога ў гэтым сакраманце?" і "Як іх добра прыняць і імі жыць, каб быць веруючым чалавекам?".

З вопыту катэхетычнай дзейнасці магу сказаць, што моладзь, якая хадзіла на ўрокі рэлігіі цягам усіх гадоў навучання ў школе, удзельнічала ў розных набажэнствах, характэрных для пэўных перыядаў літургічнага года, якая рэгулярна (раз на месяц) прыступала да споведзі і кожную нядзелю ўдзельнічала ў св. Імшы, прымала сакрамант канфірмацыі больш свядома і з большай верай, чым тыя, хто рэгулярна не наведваў катэхезы ды набажэнствы і не прыступаў да сакрамантаў. Падрыхтоўка да канфірмацыі пачынаецца ўжо ад моманту хросту. І гэта супольны шлях памылак і дастаткова добра разумець ісціны веры. Сустракаемся з сітуацыямі, калі трэба зрабіць правільны выбар. **Дар рады** дазваляе ў складаны момант выбіраць тое, што падабаецца Богу, і пазбягаць тым самым непатрэбных цярпенняў з-за нашага глупства. **Дар мужнасці** вельмі патрэбны моладзі, каб у сучасным свеце




*Удзяленне сакраманту хрысціянскай сталасці моладзі ў гродзенскай катэдры*

усёй сям'і, у якой узрастае малады чалавек.

Каб дапамагчы тым, хто мае занядбанні ў развіцці сваёй веры, каб яны маглі аднавіць свае адносіны з Богам, можна прапанаваць іх бацькам і самой моладзі рыхтавацца да канфірмацыі не год больш, чым звычайна. Знайсці такую занядбаную моладзь раней і першы год прысвяціць паўтарэнню фундаментальных праўд веры і маральнасці, аднаўленню малітоўнага і сакраментальнага жыцця маладога чалавека.

***4. Ласкі сакраманту канфірмацыі.*** Што ж дае маладому чалавеку сакрамант канфірмацыі? Фундамент, апору, стрыжань, сталасць духоўнага і маральнага жыцця. Дары Святога Духа асвятляюць розум чалавека (каб шукаў заўсёды праўду) і ўмацоўваюць яго волю (каб выбіраў заўсёды дабро).

Мы жывём у свеце, дзе дабро існуе побач са злом. **Дар мудрасці** дапамагае юнаку і дзяўчыне адрозніваць іх і любіць Божую праўду; вучыць, што наша найвышэйшая мэта – збаўленне душы, а не каб нам заўсёды добра і прыемна было на гэтай зямлі, нават цаной граху. Жывём у свеце, дзе праўда перамешана з хлуснёй. **Дар розуму** дапамагае адрозніваць іх, не рабіць трагічных перамагаць боязь і страх перад іншымі ў выкананні рэлігійных абавязкаў. Паколькі мэтай чалавечага жыцця і паклікання з'яўляецца Неба, то патрабуем **дару ўмеласці**, каб выкарыстоўваць усё для нашага вечнага збаўлення. Нам неабходна паўната жыцця, а не марнага існавання. **Дар набожнасці** дапаможа палюбіць малітву, рэгулярны ўдзел у Эўхарыстыі, частую споведзь і св. Камунію, якія даюць Божае жыццё душы чалавека. Каб весці ўпарадкаванае і цнатлівае жыццё, належыць паставіць Бога на першае месца. **Дар боязі Божай** дазваляе зразумець веліч Усемагутнага, каб любіць Яго поўнай павагі любоўю і не абражаць цяжкімі грахамі і дабравольнымі лёгкімі. І мець Божае бласлаўленне.

У час эпідэміі наша моладзь тым больш патрабуе моцы Божай і дзеяння Яго дароў у сваім жыцці. Таму тыя, хто ішоў усе гэтыя гады нармальным шляхам духоўнай і інтэлектуальнай падрыхтоўкі да сакраманту канфірмацыі, няхай у свой час яго плённа прымуць. А тыя, хто бачыць свае занядбанні ў падрыхтоўцы і слабую веру, няхай перапросяць Бога і спачатку зоймуцца аднаўленнем уласнага сакраментальнага і малітоўнага жыцця. Таму што Божая ласка патрабуе добрай волі і дзейнічае на натуры чалавека.

ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

## Ці можна на хрысціянскіх знаках пакідаць прысвячэнне?

**grodnensis.by**

*Прысвячэнне – кароткая форма выказвання, скіраваная да таго, каму штосьці дораць, тым, хто дорыць, паведамленне пра асвячэнне новай святыні ці місійнага крыжа, а таксама інфармацыя пра асобу, якой аўтар прысвячае свой твор. Што датычыцца людзей, прысвячэнне з'яўляецца найвышэйшай удзячнасцю, выразам памяці, любові або павагі да асобы. Гэта словы, уласнаручна напісаныя і падпісаныя аўтарам твора або ўладальнікам прадмета. Першапачаткова такую ўдзячнасць атрымлівалі касцёлы, місійныя крыжы і іншыя рэлігійныя рэчы, а таксама асобы, якія займалі высокае становішча ў грамадскай іерархіі. Пазней з'явіліся сямейныя і сяброўскія прысвячэнні ў форме вершаў, цытат з Бібліі і інш.*

*Прысвячэнні і запісы ў падораных кнігах ці іншых рэчах – паўсюдная практыка, аднак трэба прызнаць, што рэлігійныя кнігі і прадметы займаюць у гэтым кантэксце асаблівае месца. Запіс павінен адпавядаць пэўнай нагодзе і мець сувязь з запісанымі вартасцямі (напр. з нагоды прыняцця святых сакрамантаў ці якога-небудзь юбілею). Прысвячэнне ў гэтым месцы таксама мае вялікае значэнне і ўказвае на шлях, які дзіцяці або юбіляру жадае аўтар.*

*Чаму прысвячэнне настолькі важнае, асабліва ў дачыненні да касцёла, Бібліі і рэлігійных прадметаў? Бо запіс застаецца там назаўсёды, будзе пастаянна нагадваць пра асоб і пра моманты, з якімі было звязана іх стварэнне, стане своеасаблівай нагодай да разважання і роздуму ў штодзённым рытме жыцця. Такі запіс ці прысвячэнне з пэўнай нагоды можа стаць вельмі істотным для адоранай асобы, і ніякага граху ў гэтым няма.*

*Калі змяшчаем прысвячэнне ў Святым Пісанні ці іншых кнігах, гэта можа быць просты запіс, у якім узгадваецца нагода і змяшчаецца подпіс (або подпісы) аўтара (аўтараў). Калі хочам зрабіць сваё прысвячэнне больш арыгінальным, можам далучыць пажаданні шчасця, радасці, любові ці, напрыклад, шматлікіх Божых ласкаў і апекі Маці Божай. Усё гэта залежыць ад нашай фантазіі. Самае важнае – пажаданні павінны ісці ад сэрца і быць цалкам шчырымі, каб надоўга застацца ў памяці і выклікаць прыемныя ўспаміны.*

# ДАРОГА ВЫРАТАВАННЯ, СПАКОЮ І ЗБАЎЛЕННЯ

**13 мая 1917 года Найсвяцейшая Панна Марыя спускаецца на зямлю ў сімвалічным месцы Кова да Ірыя, што азначае “Даліна Міру” (Фаціма, Партугалія), каб умяшацца ў лёс згубленага чалавецтва і прыгадаць дарогу спакою і выратавання ад разбурэннаў вайны. Гэта быў цяжкі час – бушавала І Сусветная вайна. Расія перажыла Лютаўскую рэвалюцыю супраць Божага памазаніка – цара Мікалая ІІ Раманава – ды самадзяржаўя і знаходзілася ў стане двоеўладдзя. Бальшавікі набіралі ўсё большую моц, у краіне расла сацыяльная напружанасць і выспявала Кастрычніцкая рэвалюцыя.**

*Людвіга Цыдзік*

Па Божай волі Найсвяцейшая Панна Марыя спяшаецца на дапамогу, бо ведае, што свет стаіць над безданню і абавязкова трапіць у яе, калі чалавецтва не зменіцца. У чарговы раз у гісторыі аб’яўленняў Маці Божая з’яўляецца перад дзецьмі. Гэта таму, што Божыя таямніцы могуць быць адкрыты толькі простым, пакорным, нявінным і чыстым сэрцам, такім, як дзевяцігадовы Францішак і сямігадовая Жасінта Марту, а таксама дзесяцігадовая Люцыя дос Сантас. Менавіта ім былі перададзены тры фацімскія таямніцы.




*Месца жнівеньскага аб’яўлення Маці Божай у Валіньюс*

### ТРЫУМФ НАЛЕЖЫЦЬ МАРЫІ

Найсвяцейшая Маці сыходзіць з Неба і просіць дзяцей прыходзіць да месца аб’яўленняў у трынаццаты дзень кожнага месяца ў адзін і той жа час на працягу шасці месяцаў запар, а таксама штодня маліцца Ружанцам. Маці Божая хоча прысвяціць гэты дзень на славу Ўсявышняга Бога. Марыя прагне ўціхамірыць сатану, адабраць у яго ўсю ўладу, сарваць яго планы і аднавіць Божы парадак. Таму што адзінай крыніцай трывалага міру, шчасця і справядлівасці ў свеце з’яўляецца Бог і падпарадкаванне Яго закону любові.

Першы з фацімскіх наказаў датычыў заклiку да руплівай ружанцовай малітвы. Маці Божая запрашае людзей да супрацоўніцтва і жадае, каб у трынаццаты дзень кожнага месяца вялікая колькасць вернікаў збіралася, каб памаліцца Ружанцам, і каб гэты дзень быў асаблівым чынам прысвечаны Ёй. У чарговы раз Найсвяцейшая Маці робіць Ружанец прадметам першараднага значэння. Малітва на ружанцы мае надзвычайную сілу перамяняць сэрцы людзей і звяртаць іх да адзінай крыніцы ўсяго дабра, любові, мудрасці, справядлівасці і радасці – да Бога. Ружанец паралізуе духаў пекла і д’ябальскія легіёны. З яго дапамогай Маці Езуса здольна распачаць вялікія маральныя і палітычныя змены ды навярнуць уладу. Без малітвы мы асуджаем сябе на знішчэнне, становячыся цацкай дэманічных сіл.

Другая просьба Марыі датычыла неабходнасці строгай пакуты і кампенсацыі за грахі і абразы, нанесеныя Боскай Веліччы і Яе Беззаганнаму Сэрцу. Затым Маці Божая паказала, што адраджэнне культу Беззаганнага Сэрца Марыі, набажэнства і даручэнне сябе яму мае сілу выратаваць шмат душ грэшнікаў з пекла і з’яўляецца гарантыяй спакою. Яна таксама прасіла аб прысвячэнні ўсяго свету Яе Беззаганнаму Сэрцу. “Калі тое, што Я кажу вам, будзе зроблена, многія душы будуць выратаваны і настане мір. Тым, хто прыме набажэнства да Майго Беззаганнага Сэрца, Я абяцаю выратаванне. Гэтыя душы будуць адораны асаблівымі Божымі ласкамі, як кветкі, пакладу іх перад Яго тронам”.

### ДАРОГА Ў НЕБА

Марыя дае людзям рэцэпт не толькі для мірнага жыцця на зямлі, але і для шчаслівай вечнасці. Яна паказвае шлях да самага галоўнага чалавечага шчасця – Неба. Маці Божая не патрабуе ад нас цудаў. Просіць толькі, каб кожны дзень быў напоўнены ўсведамленнем Бога і нашага прызначэння ў вечнасці. Яна таксама хоча, каб мы насыцілі сваю паўсядзённасць Яе прысутнасцю і даверылі сябе Яе Беззаганнаму Сэрцу. Дарога ў Неба – гэта выкарыстанне таго, што прыносіць звычайнае жыццё. Усё з’яўляецца магчымасцю рабіць дабро і складваць ахвяры ў інтэнцыі ўзнагароджання сэрцам Езуса і Марыі за ўласныя і чужыя грахі. Толькі гэта.

Моманты цярпення, адзіноты і смутку павінны набыць новы выратавальны сэнс. Кожны чарговы дзень мусіць стаць нагодай, каб зрабіць крок на дарозе да святасці – той шэрай, штодзённай, сапраўднай, ведамай толькі Богу. Нашаму жыццю павінна пастаянна спадарожнічаць перакананасць у Божай любові і ўсведамленне існавання Неба.

Мусім усвядоміць, што дзякуючы настойлівай ружанцовай малітве, пакаянню і ахвяраванню свайго жыцця мы здольны змяніць ход гісторыі да лепшага. Сама візіянерка Люцыя пацвердзіла гэта ў лістах, дзе цытавала размовы з Марыяй і Езусам пра сучасны свет. “Гэты свет мог выглядаць зусім інакш. Магло не быць ІІ Сусветнай вайны, перыяду халоднай вайны, пераследу Касцёла, краху цывілізацыі”. Перад аблічам новых сацыяльных праблем і пагрозы вайны кожны хрысціянін павінен сур’ёзна паставіцца да фацімскіх заклікаў, бо яны актуальныя і сёння. Адказнасць ляжыць на кожным з нас.

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

*Кс. Юрый Марціновіч*

***2 мая – V Велікодная нядзеля***
***Ян 15, 1–8***

Езус сказаў сваім вучням: “Я – сапраўдная вінаградная лаза, а Айцец Мой – вінаградар. Кожную галінку ўва Мне, якая не прыносіць плоду, Ён адразае, і кожную, якая дае плод, Ён ачышчае, каб давала яшчэ больш пладоў. Вы ўжо чыстыя дзякуючы слову, якое Я сказаў вам. Заставайцеся ўва Мне, а Я ў вас. Як галінка не можа прынесці плоду сама з сябе, калі не застанецца ў вінаграднай лазе, так і вы, калі не будзеце ўва Мне. Я – вінаградная лаза, вы – галіны. Хто застаецца ўва Мне, а Я ў ім, той прыносіць багаты плён, бо без Мяне нічога не можаце зрабіць. Хто не застаецца ўва Мне, будзе выкінуты вон, як галіна, і засохне. І збіраюць іх, і кідаюць у агонь, і яна згарае. Калі будзеце ўва Мне і словы Мае ў вас будуць, прасіце, чаго захочаце, і станецца вам. Гэтым уславіцца Айцец Мой, калі вы прынясеце багаты плён і станеце Маімі вучнямі”.

### Жыць Духам Езуса

*Вінаградная лаза – расліна, добра вядомая слухачам Езуса ў Палестыне. Яны ведалі, колькіх намаганняў яна патрабуе, каб прынесці плён. Усведамлялі таксама, што не ўсе яе галіны пладаносяць і што тыя, якія развіваюцца належным чынам, патрабуюць догляду вінаградара: пастаяннай абрэзкі і ачысткі. Езус спасылаецца на веды і досвед сваіх слухачоў. Ён параўноўвае Бога Айца з вінаградарам, падкрэсліваючы тым самым Яго пастаянны клопат пра наша развіццё. У той жа час, параўноўваючы сябе з лазой, а слухачоў з галінкамі, Езус паказвае, што еднасць з Ім – неабходная ўмова правільнага росту, без якога наша жыццё не дасягне сваёй мэты.*

*Сродкам ачышчэння з’яўляецца вучэнне Хрыста. Калі мы трываем у еднасці з Ім, слухаем Яго словы, молімся Яму і жывём згодна з Яго вучэннем, то паступова пераменяемся па Яго вобразе. Галінка, якой з’яўляемся, разрастаецца і становіцца ўсё больш неад’емнай часткай вінаграднай лазы. Нас напаўняе Божы Дух, а ўласныя думкі, пачуцці, імкненні і ўчынкі становяцца ўсё больш падобнымі на тыя, што характарызавалі Езуса.*

*Навучанне Хрыста выражаецца не ў мностве рэкамендацый, указанняў, норм і запаведзей, але ў закліку жыць Яго жыццём – г. зн. жыццём Сына Божага. Божай запаведдзю з’яўляецца вера ў Езуса і любоў паводле меры Яго любові. Калі мы імкнёмся жыць Духам Езуса, то змагаемся за сумленнасць, справядлівасць, мір і дабро, як і Ён. І тады Бог выконвае ўсе нашы просьбы.*

*Пане Езу, учыні, каб я заўсёды стараўся жыць Тваім Духам, каб мае словы і ўчынкі падабаліся Табе!*

***9 мая – VI Велікодная нядзеля***
***Ян 15, 9–17***

Езус сказаў сваім вучням: “Як Мяне палюбіў Айцец, так і Я палюбіў вас. Заставайцеся ў Маёй любові. Калі будзеце захоўваць Мае запаведзі, застанецеся ў любові Маёй, як і Я захаваў запаведзі Айца Майго і застаюся ў Ягонай любові. Гэта Я сказаў вам, каб Мая радасць была ў вас, і каб радасць ваша была поўнай. Вось запаведзь Мая, каб вы любілі адзін аднаго, як Я палюбіў вас. Ніхто не мае большай любові за тую, калі хто жыццё сваё аддае за сяброў сваіх. Вы сябры Мае, калі робіце тое, што Я наказваю вам. Я ўжо не называю вас слугамі, бо слуга не ведае, што робіць ягоны гаспадар. Я ж назваў сябрамі вас, бо ўсё, што чуў ад Айца Майго, Я сказаў вам. Не вы Мяне выбралі, але Я выбраў вас і прызначыў, каб вы ішлі і прыносілі плён, і каб плён ваш трываў. Каб Айцец даў вам тое, чаго толькі папросіце ў імя Маё. Гэта наказваю вам, каб вы любілі адзін аднаго”.

### Жыць любоўю Езуса

*Сёння мы шмат чуем пра любоў з прэсы, радыё, інтэрнэту і тэлебачання. Ствараецца вельмі шмат розных вершаў, раманаў і фільмаў, якія адлюстроўваюць розныя яе праяўленні. Таму Езус Хрыстус запрашае нас да рэалізацыі любові. Той любові, якую даваў на працягу ўсяго свайго зямнога жыцця і якою нястомна нас адорвае. Любоў Езуса – такая любоў, якую Ён сам атрымаў і працягвае атрымліваць ад Бога Айца.*

*Ужо ў Ізраілі была рэалізавана запаведзь любові да Бога і бліжняга. Аднак мерай любові, даваемай іншаму чалавеку, была любоў да сябе: “Любі бліжняга свайго, як самога сябе”. Езус пашырыў яе сферу, падкрэсліваючы, каб мы любілі людзей так, як Ён палюбіў нас. Яго любоў знайшла свой самы поўны выраз у дабравольных пакутах і крыжовай смерці.*

*Мы, жадаючы практычна рэалізаваць любоў да Бога і людзей, павінны захоўваць Яго запаведзі. Кожны дзень – гэта магчымасць даць людзям любоў Езуса, пра якую св. Павел гаворыць, што яна доўгацярплівая, ласкавая, не зайздросціць, не бессаромная, не гневаецца, не памятае зла, не радуецца несправядлівасці, але радуецца разам з праўдай. Любоў Езуса ўсё зносіць, усяму верыць, на ўсё спадзяецца, усё цярпіць (параўн. 1 Кар 13, 4–7). Мы будзем адказваць перад Богам за рэалізацыю такой любові.*

*Пане Езу, дапамагай мне заўсёды захоўваць Твае запаведзі, каб кожны дзень быў шансам даваць іншым Тваю любоў!*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

### ЯГО ЭКСЦЭЛЕНЦЫІ КСЯНДЗУ БІСКУПУ АЛЯКСАНДРУ КАШКЕВІЧУ

*з нагоды імянін сардэчна жадаем добрага здароўя, моцнай веры і надзеі, штодзённай радасці, зычлівых людзей на пастырскім шляху, Божай дапамогі на кожны дзень жыцця, а таксама нястомнай апекі святога заступніка.*

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

### ЯГО ЭКСЦЭЛЕНЦЫІ КСЯНДЗУ БІСКУПУ АЛЯКСАНДРУ КАШКЕВІЧУ

*з нагоды імянін жадаю моцнага здароўя, сілы, мудрасці і цярплівасці. Няхай міласэрны Езус прытуліць Вас да свайго Сэрца, Святы Дух няспынна спасылае свае дары, а Найсвяцейшая Маці ахінае любоўю і апекай.*

*З памяццю ў малітве с. Ірэна Златкоўская, генеральная настаяцельніца Супольнасці сясцёр дапаможніц чыстцовым душам*

### ЯГО ЭКСЦЭЛЕНЦЫІ КСЯНДЗУ БІСКУПУ АЛЯКСАНДРУ КАШКЕВІЧУ

*з нагоды імянін перасылаю сардэчныя пажаданні. Няхай Пан Езус, якога трымаеце ў сваіх руках кожны дзень, заўсёды валадарыць у сэрцы і дадае сіл для служэння Богу і людзям. Здароўя, цёплых сонечных дзён і шчодрых Божых дароў.*

*Са шчырай малітвай Аліцыя Воранава са Смаргоні*

### ПАВАЖАНАГА КСЯНДЗА ЮРЫЯ КУЗЬМІЧА

*віншуем з нагоды імянін!*
*Вам, Ойча, шчыра жадаем*
*Здароўя, любові, натхнення.*
*Да Бога малітвы свае пасылаем*
*І просім для Вас узмацнення.*
*Каб крыж, што Вам дадзены Богам,*
*Не быў для Вас цяжкім даволі,*
*І весткі, якіх шмат у свеце,*
*Не ранілі сэрца ніколі.*
*Хай сонейка Вас сагравае*
*І ветрык пяшчотны лагодзіць,*
*Ахоўнік-анёл хай над Вамі чувае,*
*А Божая ласка з Нябёсаў сыходзіць.*

*Моладзь, вернікі, Колы Жывога Ружанца і апостальства "Маргарытка" з Новага Двара*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЮРЫЮ БАРТАШЭВІЧУ

*з нагоды імянін шчыра жадаем моцнага здароўя, даўгалецця, сіл і цярплівасці на нялёгкім шляху, на які паклікаў Вас Пан Бог, шчодрых дароў Святога Духа і нястомнай апекі Маці Божай і святога заступніка. Няхай міласэрны Езус, якога трымаеце ў далонях, кожны дзень прытуляе Вас да свайго Найсвяцейшага Сэрца.*

*З вялікай павагай і малітвай Касцёльны камітэт, Колы Жывога Ружанца і вернікі касцёла ў Жырмунах*

### ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ ВІТАЛІЮ ЮРКЕВІЧУ

*з нагоды імянін жадаем, каб Пан Бог штодзённа адорваў Вас сваёй апекай, Святы Дух няспынна чуваў над Вамі, а Найсвяцейшая Маці і святы заступнік апекаваліся кожны дзень і дадавалі моцы ды адвагі ў паслузе.*

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам са Слоніма*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ АЛЯКСАНДРУ РАМАНОЎСКАМУ

*з нагоды імянін жадаем надзейнай апекі святога заступніка ў самыя складаныя моманты. Няхай ён вядзе Вас па жыцёвых сцежках і будзе прыкладам мужнай і ахвярнай любові да Бога. Жадаем адвагі, каб крочыць дарогай святарства, несці радасць і духоўную дапамогу праз сакраманты і Божае слова людзям, якіх сустракаеце. Няхай кожны дзень прыносіць Вам сілы для душпастырскага служэння, а супакой і радасць заўсёды жывуць у сэрцы.*

*Парафіяне касцёла Беззаганнага Зачацця НМП, Гродна-Паўднёвы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ МАР'ЯНУ ХАМЕНЮ

*з нагоды імянін сардэчна жадаем штодзённай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і Пана Езуса. Няхай шлях, які Вы выбралі, будзе шчаслівы і благаслаўлёны, а сэрца заўсёды радуецца кожнаму перажытаму дню.*

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Шылавічаў*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВІКТАРУ ЗАХАРЭЎСКАМУ

*з нагоды дня нараджэння перасылаем сардэчныя віншаванні. Жадаем шчодрых Божых ласкаў, здароўя на доўгія гады, дароў Святога Духа, няспыннай апекі Маці Божай, стойкасці на святарскім шляху, які вызначыў для Вас усемагутны Бог, і людской дабрыні. Дзякуем за працу ў нашай парафіі, цярплівасць да нас, за павучальныя казанні, клопат пра парафіян, а Вашым бацькам – за сына святара.*

*З памяццю ў малітве парафіяне з Варнянаў і Вароны*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВАЛЕРЫЮ СПІРЫДОНУ

*з нагоды дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, шчодрых Божых ласкаў і дароў Святога Духа, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і святога заступніка, а таксама шмат сіл і душэўнага супакою для актыўнага ўдзелу ў жыцці парафіі і супольнасці Касцёла.*

*Вернікі капліцы Вердамічы*

### ПАВАЖАНЫ КСЁНДЗ ЮЗАФ ЗАНЕЎСКІ!

*З нагоды юбілею прыміце нашу сардэчную падзяку і віншаванні. Дзякуем Пану Богу за дар Вашага святарства, а таксама ўсім добрым людзям, якія дапамаглі Вам стаць святаром. Вельмі ўдзячны Вам за тое, што дапамаглі вярнуць паўразбураную святыню, з руін адрадзіць парафію, а таксама за ўсе тыя святыні і аднаўленне хрысціянскай веры на тэрыторыі былога Савецкага Саюза, дзе Пан Бог даваў Вам сілы і здароўе здзяйсняць усё запланаванае. Дзякуем за ўменне выслухаць кожнага і працягнуць руку дапамогі ў хвіліны радасці, смутку і жалю. У сваіх малітвах просім міласэрнага Бога праз заступніцтва Найсвяцейшай Панны Марыі і ўсіх святых аб трывалым здароўі, доўгіх гадах жыцця для Вас, патрэбных Божых ласках і благаслаўленні.*

*Вернікі касцёла Апекі НПМ у Дайлідках*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ВІКТАРУ ЗАХАРЭЎСКАМУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем, каб Пан Бог штодзённа адорваў Вас сваімі ласкамі: моцным здароўем, душэўным супакоем, мудрасцю і поспехам у душпастырскай паслузе. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя і святы заступнік нястомна Вамі апекуюцца, а Анёл-ахоўнік чувае і дапамагае годна перажываць кожны дзень сярод верных і добразычлівых людзей.*

*Вернікі парафіі Раготна*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЯКСАНДРУ АДАМОВІЧУ

*з нагоды імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці і надзеі на кожны дзень, а таксама нястомнай апекі Маці Божай, шчодрых дароў Святога Духа і патрэбных Божых ласкаў.*

*Вернікі касцёла Божай Міласэрнасці ў Доцішках*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЕГУ КУДЭРКУ

*з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, поспехаў, цярплівасці, мужнасці, добрых і зычлівых людзей на святарскім шляху. Няхай усемагутны Бог дае Вам сілы, Святы Дух надзяляе мудрасцю і спакоем, Езус служыць прыкладам, а Маці Божая і святы заступнік заўсёды Вас аберагаюць.*

*Вернікі парафіі Маці Божай Вастрабрамскай у Гродне*

### ПАВАЖАНЫМ КСЯНДЗАМ АЛЯКСАНДРУ ЛЕБЯДЗЕВІЧУ І СТАНІСЛАВУ ЛАБАНУ

*з нагоды імянін ад усяго сэрца жадаем патрэбных Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і святых заступнікаў, а таксама моцнага здароўя, душэўнага супакою, сіл і добрых людзей побач.*

*Апостальства "Маргарытка" і парафіяне з Беняконяў*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВІКТАРУ ЗАХАРЭЎСКАМУ

*з нагоды дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў.*
*Ад шчырага сэрца Вам мноства шчасця хочам пажадаць,*
*А сутнасць благаслаўлення адзін Айцец Нябесны можа даць.*
*Таму малітвы шлём да Бога, каб заўжды па міласці Яго*
*Вам асвячала сонейка дарогу, ды апякун сцярог у дзень і ў ноч.*
*Пакой і міласць каб былі пакровам Божым,*
*І шчасце – у тым, што дорыце Вы іншым.*
*Здароўя, сіл ад Бога, ад Святога Духа – мудрасці і ўмення,*
*Ад Божай Маці – апекі, ласкі, разважлівасці, цярпення.*

*З памяццю ў малітве вернікі касцёла Божага Цела ў Дварцы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЯКСАНДРУ ЛЕБЯДЗЕВІЧУ

*з нагоды імянін складаем самыя сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя на доўгія гады і шчодрых Божых ласкаў у душпастырскай паслузе. Няхай Езус прытуляе Вас да свайго сэрца, а Маці Божая апекуецца заўсёды і ўсюды.*

*Колы Жывога Ружанца з Суботнікаў*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ВАЛЕРЫЮ СПІРЫДОНУ

*з нагоды дня нараджэння і 9-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў шчыра жадаем добрага здароўя на доўгія гады, сапраўднай радасці ад выканання святарскай паслугі, душэўнага супакою, вясны і цеплыні ў сэрцы, а таксама ўсмешкі на кожны дзень. Няхай ніколі не знікае аптымізм і рэалізуюцца ўсе планы, а жыццёвы шлях будзе благаслаўлёны.*

*З удзячнасцю і павагай вернікі парафіі Мсцібава*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЯКСАНДРУ РАМАНОЎСКАМУ

*з нагоды імянін жадаем шчодрых Божых ласкаў, натхнення Святога Духа і апекі Маці Божай. Няхай здароўе і энергія спадарожнічаюць Вам, а служба Богу і людзям прыносіць радасць і задавальненне.*

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з парафіі Гродна-Паўднёвы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЯКСАНДРУ БАКЛАЖЦУ

*з нагоды імянін складаем сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці і поспехаў у служэбе Богу і людзям. Няхай Ваша сэрца заўсёды будзе адкрыта на ўсіх, а кожны дзень прыносіць радасць і супакой.*

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Крамяніцы*

### ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ АЛЯКСАНДРУ МАХНАЧУ

*з нагоды імянін жадаем нязгаснага запалу ў душпастырскай паслузе, сіл і натхнення. Няхай Пан адорвае патрэбнымі ласкамі, Маці Божая апекуецца Вамі, а святы заступнік заўсёды будзе побач.*

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з парафіі Ліда-Індустрыяльны*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ СТАНІСЛАВУ ЛАБАНУ

*з нагоды імянін жадаем шчодрых Божых ласкаў, здароўя на доўгія гады, дароў Святога Духа, стойкасці на святарскім шляху. Няхай Бог Вас благаслаўляе, а Панна Марыя па-мацярынску апекуецца.*

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Беняконяў*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ СТАНІСЛАВУ ПЫТЭЛЮ

*з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, духоўных і фізічных сіл для далейшага служэння, Божай дапамогі ў ажыццяўленні душпастырскіх планаў. Няхай святы заступнік няспынна моліцца за Вас перад Божым алтаром.*

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Васілішкаў*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

## КАТАЛІЦКІЯ СМІ БЕЛАРУСІ

**CATHOLIC.BY**

**інтэрнэт-партал Касцёла ў Беларусі**

Становішча вернікаў у Беларусі непакоіць каталіцкі фонд "Дапамога Касцёлу ў патрэбе". Даклад ахоплівае перыяд 2018–2020 гады. Паводле дадзеных, 67% насельніцтва зямлі пражываюць у 62-ух краінах, дзе адзначаюцца парушэнні рэлігійнай свабоды ў тых ці іншых формах. Найбольш ад ганенняў у свеце церпяць хрысціяне.

У 26-ці са згаданых 62-ух краін быў адзначаны сапраўдны пераслед, яшчэ ў 36-ці назіраецца дыскрымінацыя па рэлігійнай прыкмеце. Акрамя таго, яшчэ 24 краіны, сярод якіх таксама Беларусь, знаходзяцца "пад назіраннем". У Беларусі за акрэслены перыяд заклапочанасць выклікалі, перадусім, сумнавядомы "крыжалом" у Курапатах і незаконная забарона вяртання на радзіму арцыбіскупу Кандрусевічу.

**Ave Maria**

**рэлігійны часопіс**

Прыняцце таго, што маеш сёння, вызваляе ад жадання мець больш, быць кімсьці іншым, насычацца чужой увагай і захапленнем. Сенека малодшы казаў, што чалавек, які бясконца параўноўвае сябе з іншымі, ніколі не будзе шчаслівы. Аднак, дзякуй Богу, ёсць лек, які здольны вылечыць многіх і не патрабуе рэцэпта.

Гэта праслаўленне Усявышняга. Яно не патрабуе спецыяльных месцаў ці часу і здольна ўратаваць чалавека, які давярае Пану, з любога полымя. Праслаўленне, г. зн. падзяка за ўсе справы для мяне і людзей навокал – здольна вярнуць магчымасць бачыць дабро, ачысціць сэрца ад яду зайздрасці. Праслаўленне не канстатуе фактаў, яно аздараўляе і змяняе рэчаіснасць, бо запрашае заўважыць яе Аўтара.

**Radio Vaticana**

**беларуская рэдакцыя**

Згодна з гарачым жаданнем Святога Айца, у маі будзе праходзіць малітоўная ініцыятыва пад назвай "Касцёл руплівa маліўся да Бога". Галоўная інтэнцыя ружанцовага марафона – хуткае завяршэнне пандэміі каранавіруса, якая ахапіла амаль увесь свет. Як вядома, май у каталіцкай духоўнай традыцыі прысвечаны адмысловай малітве праз заступніцтва Найсвяцейшай Панны Марыі.

На працягу мая, штодзённа ў 18.00 па рымскім часе, на афіцыйных медыя-каналах Апостальскай Сталіцы будзе трансліравацца малітва на ружанцы з аднаго з 30-ці санктуарыяў свету. 1 мая папа Францішак асабіста дасць старт малітоўнай ініцыятыве, а 31 мая – завершыць яе. Далучайцеся да малітоўнай барацьбы супраць Covid-19.

**GRODNENSIS.BY**

**інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі**

Велікодная радасць Кангрэгацыі сясцёр св. Кацярыны Александрыйскай была ўзмоцнена тым, што тры сястры, у тым ліку адна з Беларусі, прынеслі ў Браневе (Польшча) вечныя манаскія абяцанні. Духоўнасць гэтай кангрэгацыі характэрызуецца асаблівым разважаннем над пасхальнымі таямніцамі.

Беларуска с. Аўгустына Белагрывая CSC, якая была сярод іх, паходзіць з парафіі св. Казіміра, каралевіча, у Ліпнішках (дэканат Іўе). Пасля прынясення вечных абяцанняў манахіня вярнулася ў Беларусь, дзе працягвае служэнне ў парафіі Божага Цела ў Крамяніцы (дэканат Ваўкавыск).

**Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 1609; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.